Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 5. Вільня, Серада, 21-га студзеня 1925 г. Год I.

## Рашучы мамэнт.

Кожнаму ясна, што ў галіне нашае культурна-нацыянальнае творчасьці ў адну агульную скарбніцу складаюцца, як плады працы Заходняе Беларусі, так і Беларусі Радавае, і Латвійскае, і Літоўскае, і, наагул, эмігранцкае. Панад гранічнымі межамі, падзяліўшымі адзіны беларускі народ на часткі, лунае дух суцэльнага жывога народу, лунае адзіная агульна-беларуская культура.

Вось, чаму нас заўсёды так глыбака захоплівае кожная вестачка аб працы нашых зарубежных братоў,—добрая радуе, благая — смуціць... Вось, чаму мы так пільна сочым за ўсімі праявамі беларускага жыцьця ці то на Усходзе, ці ў Латвіі, Літве, Чэхіі і т. п.

Бясспрэчна, найбольш увагі вымагае Усходняя Беларусь—тая часьціна нашае абшырнае Бацькаўшчыны, у якой жыве галоўная маса беларускага народу. Кожнае культурна-нацыянальнае заваяваньне на Усходзе—гэта-ж *агульнабеларускае заваяваньне.*

Але ведама кожнаму і тое, што *магчымасьць* творчае культурнае працы залежыць перад усім ад тых *палітычных* варункаў, у якіх народу даводзіцца жыць і тварыць. Дык ня меншую цікавасьць выклікае ў нас і палітычнае жыцьцё Радавае Беларусі.

А яна як-раз стаіць напярэдадні нязвычайна важнага здарэньня. Як мы ўжо падавалі ў папярэднім нумары, на павестцы чацьвертае сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Радавае Беларусі, якая пачынаецца 1 лютага, пастаўлена справа разгляду праекту *канстытуцыі Беларускае Рэспублікі.*

Канстытуцыя—гэта тыя асноўныя законы, на якіх мае быць абаперта жыцьцё нашых усходніх братоў на даўжэйшы час. І ад таго ці другога зьместу канстытуцыі будзе залежаць увесь далейшы ход выпадкаў у беларускім жыцьці на Усходзе, адбіваючыся адпаведна і на агульнабеларускім жыцьці.

Праект канстытуцыі мае разглядаць найвышэйшая беларуская дзяржаўная ўстанова. Але нікому не сакрэт, што ў гэтай установе пануе непадзельна камуністычная партыя, якая пойдзе тэй ці іншай дарогай у залежнасьці ад таго, чаго хоча агульна-партыйны цэнтр у Маскве...

Што-ж скажа Масква?

Вось пытаньне, адказ на якое залежыць ад агульнае палітычнае лініі камуністычнае партыі ў справе нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. І тое ці іншае вырашэньне пытаньня *аб межах і аб'ёме самастойнасьці Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі* будзе служыць адказам і на пытаньне аб агульнай палітычнай лініі СССР.

Перад нашымі ўсходнімі братамі стаіць у гэты мамэнт вялізарная задача: гэта — ня толькі адваяваць магчыма шырэйшую дзяржаўную самастойнасьць БССР, але і пераканаць Маскву, што ў нацыянальнай палітыцы ня можа быць поў-мераў, што трэба паставіць радавае будаўніцтва беспаваротна на грунце саюзу запраўды *вольных і самастойных народаў*, бо інакшай усе пекныя словы аб гэткім саюзе акажуцца пустымі.

У сваім часе ў аднэй з беларускіх часопісяў—нашых недаўгавечных папярэдніцаў — была прыведзена заява радавага ўраду, што *паварот яго палітыкі ў нацыянальным кірунку зроблены „надоўга і ўсур'ёз"*. Цяпер якраз і адкрываецца перад Масквой магчымасьць—на жывым прыкладзе канстытуцыі БСРР—даказаць, што словы гэныя — ня пусты гук, а цьвёрдая і непарушная падстава радавага будаўніцтва.

Вось чаму з вялізарнай цікавасьцяй будзем мы ждаць вестак аб выніках працы сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Радавае Беларусі, якая пачнецца 1 лютага. Усходняя Беларусь перажывае запраўды рашучы мамэнт: ад таго, якой акажацца яе новая канстытуцыя, будзе залежаць *і роля і месца яе ў жыцьці ўсяго беларускага народу.*

## Страты паліцыі за 1924 год.

Галоўная каманда дзяржаўнае паліцыі падлічыла свае страты забітымі ў працягу 1924 году.

Забіты пры выпаўненьні службовых абвязкаў **1 камісар, 1 асьпірант, 2 старшыя пшодовнікі, 5 пшодовнікаў, 16 старшых пастарунковых і 60 пастарунковых, а ўсяго—85 душ.**

Найбольш забітых паліцыянтаў прыпадае на Віленска-Троцкі пав. (разам з м. Вільняй) і Лунінецкі—**па 8**, у Стаўпецкім пав.—**7**, у Дзісьненскім і Остраўскім—**па 5**, у Нясьвіжскім і Сарненскім—**па 4**, у Берасьцейскім, Ковельскім, Столінскім, Перамышльскім, Збаражскім, Білюрайскім, Хшаноўскім, Осьвенцімскім і Фадзехоўскім пав. і ў месьце Кракаве—**па 2**, у паветах: Валожынскім, Сьвянцянскім, Вялейскім, Косаўскім, Камянецкім, Луцкім, Ровенскім, Тарнопальскім, Коломыйскім, Жаўквянскім, Яноўскім, Любомльскім, Радомскім, Боханскім, Пуляўскім, Нешаўскім, Ласкім, Ланьцуцкім, Замойскім, Вэнгроўскім, Грубешоўскім, Владаўскім і Калішскім—**па 1.**

## Прамова дэпутата Ф. Ярэміча.

*(У Адміністрацыйнай Камісіі 12/I 1925 г.).*

Пры абгаварываньні прапазіцыі аб увядзеньні вынятковага стану на так-званых „Крэсах" многа прышлося чуць усялякіх прапазіцыяў, як можна вылячыць хворыя „Крэсы".

Я, як прадстаўнік беларускага народу, павінен сказаць адно, што ня толькі ў польскага ўраду няма ніякай праграмы гэтага „лячэньня", але няма праграмы і ў палітычных партыях. Бо вось, напрыклад, П.П.С.—пасол Узембло—казаў, што няма на так-званых „Крэсах" нацыянальнага пытаньня, і што толькі трэба зрабіць **некаторыя** сацыяльныя рэформы, і ўсё будзе добра. Пасол Прагер, таксама П.П.С., прапануе рэзалюцыю аб аўтаноміі (ня ведаю ці шчыра...), а пасол Плаўскі кажа, што трэба штось дзеля беларусаў даць, толькі страшыць нас, што ў Савецкай Беларусі надта кепска, што там арыштоўваюць дзеячоў беларускіх. Як з гэтага бачым, у самай лявіцовай партыі Польшчы, П.П.С., няма праграмы адносна да нацыянальных меншасьцяў. Няма гэтай праграмы і ў цэнтры Сойму, а ёсьць праграма толькі ў польскай правіцы, каторая выразна ставіць пытаньне: усё, што ёсьць беларускага, зьнішчыць. А калі мы паглядзім на колькігадовую гісторыю—ад 1919 году, то ўся палітыка польскага ўраду йшла ў кірунку іменна нішчэньня ўсяго беларускага.

Тут гаварылася на папярэднім паседжаньні, што бальшавікі ў Савецкай Беларусі ня шчыра йдуць насустрэчу беларускаму руху, што там толькі робяць „фіглі". Я ня вельмі аптымістычна гляджу на тое, што там робіцца ў Савецкай Беларусі; я ведаю,—што дзеля беларускага селяніна і там не вялікі рай; але там усё-ж **зрабілі** гэныя „фіглі", якія аказаліся надта карыснымі дзеля сялян. Селянін **дастаў зямлю**, дый то на ўласнасьць, і зямлю дастаў іменна адвечны валадар гэтай зямлі, **беларускі** селянін, ня гледзячы на тое, у чыіх руках гэта зямля дагэтуль была: у пана абшарніка з ласкі „Jego Królewskiej Mości", ці ў пана генарала з ласкі „Его Имераторского Величества". Дастаў так-жа **родную школу** і адваяваў **родную мову**.

А тут селянін страціў тое, што меў, бо зямлі не дастаў, двароў-жа ня стала, зарабіць няма дзе, бо асаднік, які дастаў гэную дворную зямлю, зарабіць селяніну ня дасьць. Усе беззямельныя сяляне, якія да вайны змушаны былі йсьці на службу, ці то дзе за стоража, ці за работніка, дзякуючы голаду ў Расеі ў 1918 і 1919 годзе, вярнуліся на Бацькаўшчыну, а таксама і былыя чыноўнікі і вучыцялі, і вось цяпер ніхто з іх ня мае працы, бо вучыцелю не даюць роднай школы, а рабочага ці чыноўніка не бяруць на работу, таму што ён беларус, а калі, ня дай Божа, йшчэ і праваслаўны, дык нікуды і ня суньея, бо нідзе пасады не атрымаеш!..

Пасол Прагер казаў, што мы—маладыя палітыкі, і што мы бываем часамі наіўнымі. Так, да аднэй рэчы прызнаюся: мы былі наіўныя, калі паверылі генаралу Сікорскаму, каторы казаў, „Bracia białorusini i ukraincy! do Was wyciągneła ręka Polska, więc nie traktójcie jej tak"! Мы тады наіўна паверылі і падалі руку ген. Сікорскаму, які другою рукою даў нам пачуць сваю ўладу...

Я стаўлю два пытаньні: ці ёсьць беларусы ў польскай дзяржаве, ці няма?..

Адказ ясны: што ёсьць, бо найлепшы доказ гэтага тое, што прадстаўнікі беларускага народу сядзяць нават у гэтай высокай камісіі.

А калі ёсьць беларускі народ, то ён павінен атрымаць належныя яму правы. Калі вы не дасьцё, то **ён сам іх сабе здабудзе.** Або астаецца другі выхад: **выразаць да аднаго ўсіх беларусаў**, тады будзе справа зьліквідавана. Пры вынятковым стане і пры кругавой паруцы, правіца думае, што гэта зробіць. Думаю аднак, што апошняе ня ўдасцца, бо надта ўжо многа будзе работы і надта многа нас ёсьць, каб гэта можна было зрабіць!..

Чуў тут першы раз за два гады ад двух паслоў прапазіцыю, што **трэба гаварыць з прадстаўнікамі беларусаў і ўкраінцаў і з імі дагаварыцца**, бо, па іх перакананьню, гэта будзе найлепшы лек дзеля „Крэсаў". Вітаю гэту прапазіцыю і, калі будзеце гаварыць шчыра, то можам па многім пунктам дагаварыцца.

Рэасумуючы ўсё тое, што сказаў, заяўляю: што вынятковыя станы не памогуць, генарал-ваяводы таксама нічога ня зробяць. Дзеля гэтага падаю прапазіцыю:

1) Зьмяніць генарал-ваяводаў і вывесьці войска, якое расквартаравана па вёсках;

2) Скасаваць даразныя суды;

3) Асыгнаваць крэдыты і, як найхутчэй, даць дапамогу Беларускаму і Украінскаму народу на школу і адбудову;

4) Правясьці зямельную рэформу і скасаваць вайсковае асадніцтва.

---

Як ужо ведама нашым чытачом, усе прапазіцыі беларускага дэпутата былі адкінуты...

---

***Ніколі не зьнішчажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

